ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# МІХАЛ ВАЛОВІЧ І ЯГО ЭСЭ “ПАРТЫЗАНСКАЯ ВАЙНА”

ДЗМІТРЫЙ МАТВЕЙЧЫК

***Анатацыя:*** У дакладзе паказваюцца перадумовы і прычыны напісання ваенна-палітычных эсэ былымі ўдзельнікамі паўстання 1830–1831 гадоў у эміграцыі, падаюцца біяграфічныя звесткі пра Міхала Валовіча і доказы яго аўтарства рукапісу “Партызанская вайна”, раскрываюцца сутнасць і асноўныя палажэнні эсэ, а таксама паказваецца спроба іх рэалізацыі на практыцы.

***Ключавыя словы:*** Міхал Валовіч, эміграцыя, Парыж, паўстанне 1830–1831 гадоў, “Партызанская вайна”, Гродзенская губерня.

## MICHAL VALOVIČ AND HIS “GUERRILLA WARFARE” ESSAY

***Abstract:*** The report shows the background and reasons for writing the political and military essays by former participants of the 1830–31 Uprising while in immigration, provides the biographical information about Michal Valovič and proves that he was the author of the “Guerrilla Warfare” manuscript. The report reveals the essence and basic points of the essay as well as demonstrates the attempt of their implementation.

***Keywords:*** Michal Valovič, Immigration, Paris, 1830–31 Uprising, “Guerrilla Warfare”, Hrodna Province.

Пасля паражэння паўстання 1830–1831 гадоў на землях былой Рэчы Паспалітай частка яго ўдзельнікаў эміgravала і працягвала сваю барацьбу па-за межамі радзімы. Найбольшы асяродак эміграцыі склаўся ў Францыі, сталіца якой з цягам часу набывала ўсё большую значнасць у яе дзейнасці. Менавіта тут былі сканцэнтраваныя асноўныя інтэлектуальныя сілы эміграцыі: пісьменнікі, публіцысты, выдаўцы, палітыкі і так далей. Немалую частку іх увагі займала распрацоўка тактычных і стратэгічных пытанняў працягу барацьбы.

Сярод эміграцыі ў пачатковы перыяд выразна вылучалася так званая “ліцвінская плынь”, прадстаўнікі якой паходзілі з зямель былога Вялікага Княства Літоўскага. Найбольш яскравым прадстаўніком гэтай плыні стала Таварыства Літоўскае і Рускіх Зямель (далей – ТЛРЗ). Менавіта гэтае таварыства ўзяло на сябе працу па зборы ўспамінаў удзельнікаў паўстання, а таксама падрыхтоўцы тэарэтычных прац, якія ў далейшым маглі б дапамагчы ў барацьбе за аднаўленне Рэчы Паспалітай (больш падрабязна пра гэта гл. Матвейчык, 2011). Адной з такіх прац стала падрыхтаванае Міхалам Валовічам эсэ “Партызанская вайна”.

Каштоўнасць рукапісу заключаецца таксама ў рэдкасці такіх твораў, як беларускія помнікі ваеннай думкі першай паловы XIX стагоддзя. Вядомыя працы ўяўляюць сабой, як правіла, толькі невялікія брашуры, пэўныя думкі ў карэспандэнцыі, рукапісы праектаў і гэтак далей. Прытым што вядзенне ўзброенай барацьбы супраць Расійскай Імперыі нерэгулярнымі вайсковымі адзінкамі, часта спешна арганізаванымі з грамадзянскага насельніцтва, практыкавалася ва ўсіх паўстаннях канца XVIII – сярэдзіны XIX стагоддзя за аднаўленне Рэчы Паспалітай, а ў апошнім – 1863–1864 гадоў – з’яўлялася адзіна прынятай тактыкай.

Міхал Валовіч нарадзіўся 18 чэрвеня 1806 года ў вёсцы Парэчча Слонімскага павета Гродзенскай губерні. Вучыўся ў школе ў мястэчку Жалібар ля Варшавы, затым у Віленскім універсітэце. У 1831 годзе браў удзел у паўстанні ў Каралеўстве Польскім, Літве і Беларусі, у тым ліку быў пасланнікам ад паўстанцаў з зямель былога ВКЛ да дыктатара паўстання Юзафа Хлапіцкага, служыў у Літоўска-Рускім легіёне, удзельнічаў у экспедыцыі корпуса польскага войска генерала Антонія Гелгуда, дзе атрымаў чын ротмістра кавалерыі, і разам з ім 15 ліпеня 1831 года перайшоў у Прусію. З гэтага часу пачаўся непрацяглы эміграцыйны перыяд яго жыцця, які ён правёў у Парыжы.

Варта адзначыць, што ў сталіцу Францыі Валовіч прыбыў дастаткова хутка, бо ўжо 19 лютага 1832 года быў прыняты, разам са стрыечным братам Адама Міцкевіча Люцыянам Калупайлам, у склад ТЛРЗ (Odpisy dokumentów, k. 65). Валовіч актыўна ўдзельнічаў у працы таварыства, часта прысутнічаў на яго пасяджэннях у лютым-снежні 1832 года,

уваходзіў у склад яго камісій, што займаліся арганізацыяй выбіцця медаля ў гонар паўстання, а 10 снежня быў абраны яго падскарбіем. Але гэта было апошняе пасяджэнне, на якім Валовіч прысутнічаў (Odpisy dokumentów, k. 180 i in.). Гэта было звязана з тым, што ён пакінуў Парыж і накіраваўся на радзіму.

Менавіта ў Парыжы і было напісана згаданае эсэ. На сённяшні дзень яго тэкст захоўваецца ў зборах Польскай бібліятэкі ў Парыжы (Wołłowicz, 1832). Хаця аўтарства Валовіча не пазначана на самім рукапісе, аднак менавіта на яго ўказвае шэраг крыніц:

1) запіс у пратаколе пасяджэнняў ТЛРЗ ад 10 снежня 1832 года; падчас сваёй справаздачы Ігнат Дамейка сказаў наступныя словы: *"<...> было пастаноўлена падрыхтаваць прынамсі кнігу для нашага краю пра партызанскую вайну, і гэтае важнае прадпрыемства было даверана працы і стараннасці сябры Валовіча, які ўжо сабраў для гэтага шмат патрэбных матэрыялаў, падрыхтаваў значную частку твора, што абяцае нашаму краю шматлікія карысці"* (Odpisy dokumentów, k. 192);

2) почырк Валовіча на двух лістах да Ігната Дамейкі за канец 1831 года (захоўваюцца ў Музеі Адама Міцкевіча ў Парыжы) (Rękopisy), які даказвае, што тэкст напісаны менавіта ім.

Ускосна аўтарства пацвярджаецца і апісаннямі сустрэч з Валовічам, змешчаных на дзвюх старонках ва ўспамінах яго сябра Ігната Дамейкі, які быў высокай думкі пра яго: *"мой даўні сябра і адзін з самых энергічных і самых высакародных літоўскіх паўстанцаў".* У іх Валовіч паўстае як натура рамантычная, але пры гэтым гарачая, смелая, схільная да дзеянняў, а не да словаў, парывістая, гатовая да самаахвяравання (Domeyko, 1962: 176–178). Менавіта ў такой рамантычна-энергічнай манеры і напісана эсэ, дзе няма доўгіх абстрактных разважанняў і ёсць шмат канкрэтных прыкладаў і парад.

Эсэ не скончана. У ім адсутнічаюць некаторыя часткі, зададзеныя ў меркаваным плане, а апошняя частка рукапісу выразна ўяўляе сабой чарнавік з частымі праўкамі і перакрэсліваннямі нават цэлых абзацаў. Гэта натуральны вынік паспешлівага ад'езду Валовіча з Парыжа для ўдзелу ў "экспедыцыі Залiўскага" (гл. ніжэй). Як піша Дамейка, Валовіч, а таксама яшчэ каля 20 эмігрантаў напрыканцы 1832 года выехалі з Парыжа, нават ні з кім не развітаўшыся (Domeyko, 1962: 178).

Эсэ ўяўляе сабой адначасова і тэарэтычнае абгрунтаванне такога спосабу вядзення ўзброенай барацьбы, як партызанскія дзеянні, так і практычны дапаможнік для партызанскіх камандзіраў. У эсэ Валовіч выступае як гарачы прыхільнік партызанскай вайны. Яно пачынаецца наступнымі словамі: *"У польскай краіне пануе памылковая думка, пацверджаная, на жаль, вопытам некалькіх разоў, што Польшча без чужой*

*дапамогі, без рэгулярнага войска, толькі ўзброеным народам, няздольная скінуць ярмо, якое 60 гадоў ляжыць на польскім народзе. Я вам, землякі, каротка ўкажу на беспадстаўнасць гэтай думкі. Не разважаннямі, але простымі доказамі, з якіх вы самі пачарпняце праўду".* Значная частка далейшых разважанняў і будзе накіравана на тое, каб пацвердзіць гэтую зададзеную мэту.

Свае перакананні ён абгрунтоўвае на аналізе шматлікіх гістарычных прыкладаў удалых дзеянняў партызанаў, у тым ліку і апошняга паўстання. У эсэ Валовіч прапанаваў цэлую сістэму фарміравання і дзеянняў партызанскіх атрадаў і злучэнняў на землях былой Рэчы Паспалітай. На думку Валовіча, менавіта партызанская вайна здольная прывесці да адраджэння Рэчы Паспалітай.

Рэалізуючы свае ідэі, Валовіч у 1833 годзе ўзяў удзел у так званай "экспедыцыі Заліўскага", мэтай якой было ўзнаўленне паўстання на землях былой Рэчы Паспалітай менавіта праз партызанскія дзеянні. Для Валовіча гэта скончылася трагічна. Ён не здолеў сфармаваць паўстанцкі атрад і быў схоплены ў Слонімскім павеце. Пасля следства і суда ён быў павешаны 21 ліпеня 1833 года ў горадзе Гродна (Справа аб пошуку; Sidorowicz Czerniewska, 1934).

### *Бібліяграфія*

1. Матвейчык, Дзмітрый (2011). *Выгнаныя з роднага краю: Пасляпістападаўская эміграцыя з Беларусі і Літвы (1830–1870-я гады).* Мінск: Лімарыус.

2. *Справа аб пошуку ўдзельнікаў паўстання 1831 г. у Белавежскай пушчы.* Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1, воп. 27, спр. 352.

3. Domeyko, Ignacy (1962). *Moje podróże. Pamiętniki wygnańca,* wyd. E. Nieciowa. T. 1. Wrocław, etc.: Zakład narodowy imienia Ossolińskich.

4. *Odpisy dokumentów Towarzystwa Litewskiego i Ziem Ruskich z lat 1831–1836.* Biblioteka Narodowa. Rkps. II.7871.

5. *Rękopisy z lat 1831–1888. Pisma i listy do Ignacego Domeyki.* Muzeum Adama Mickiewicza. Rkps. 1018.

6. Sidorowicz Czerniewska, Katarzyna (1934). *Sprawa emisariusza Michała Wołłowicza z r. 1833.* Grodno: Wydawnictwo Zarządu Miejskiego.

7. Wołłowicz, Michał (1832). *[Wojna partyzancka].* Biblioteka Polska w Paryżu. Rkps. 537: 475–541.